# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1011) ГОД XX 13 ЛІПЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


## Пуцяводныя думкі

Ты ніколі не будзеш ведаць дастаткова, калі не будзеш ведаць больш, чым дастаткова.

*У. Блейк*

Сапраўдныя веды заключаюцца не ў знаёмстве з фактамі, якія робяць чалавека толькі педантам, а ў выкарыстанні фактаў, якія робяць яго філосафам.

*Г. Бокль*

## Новыя вершы

### ЗАЙЗДРОШЧУ МАКАВАМУ ЗЕРНЮ

Ах, колькі дзіўнага ў насенні,
А нам яго і не відно —
Гляджу на макавае зерне:
Якое дробнае яно!

Здаецца, дзе яму прачнуцца,
Не суджана такому жыць,
А варта глебы дакрануцца —
Нібы ад шчасця, задрыжыць.

І праз яе знаходзіць выйсце,
Пасля ўмацуецца як след —
І пойдзе ў рост, і пойдзе ў лісце,
І пойдзе ў прыгажэйшы цвет.

А я гляджу на луг зялёны —
І радасць, радасць у вачах:
Ах, мак чырвоны, мак чырвоны,
Што ў свята плошча — ўся ў сцягах!

**Пятрусь Броўка**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

23 чэрвеня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Ён падвёў вынікі сёлетніх конкурсаў мастацкай самадзейнасці: песеннага і тэатральнага. Было падкрэслена далейшае развіццё арганізацыйнага і мастацкага ўзроўню гэтай важнай бэгэкатоўскай дзейнасці. Вырашана шырэй уключыць у яе Сакольшчыну і Дуброўшчыну, якія ў гэтым годзе не прынялі ўдзелу ў абодвух конкурсах, а таксама больш дапамагчы ў забеспячэнні будучых удзельнікаў адпаведным рэпертуарам. З гэтай мэтай плануецца падрыхтаваць і выдаць спеўнік.

Прэзідыум абмеркаваў таксама стан чытальніцтва беларускіх кніжак і друку ў асяроддзі, ахопленым дзейнасцю БГКТ. Назіраюцца ў гэтай галіне пэўныя занядбанні. З мэтай паляпшэння гэтага напрамку дзейнасці было вырашана (у пасяджэнні прымалі таксама ўдзел прадстаўнікі Ваяводскай бібліятэкі і Дома кнігі) супольна з Ваяводскай бібліятэкай, Домам кнігі, РСВ „Прэса“ апрацаваць і правесці чытальніцкі конкурс, верыфікаваць і сістэматычна аднаўляць кнігазборы, праводзіць семінары бібліятэкараў, адпаведна рэкламаваць беларускія кнігі, распаўсюдзіць спаборніцтва на падпіску „Нівы“ на ўсю тэрыторыю дзейнасці БГКТ.

Затым Прэзідыум абмеркаваў і зацвердзіў план працы на другое паўгоддзе. (рл)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"





## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# АЛЬХОЎКА

Ужо адно тое, што з вуліцы ў вёсцы **Альхоўка**, што знаходзіцца ў якіх 4—5 км на ўсход ад мястэчка Нараўка, відаць шчыльная сцяна Белавежскай пушчы з такімі свойскімі назвамі ўрочышчаў, як **Альхоўскі Кут, Бахурова Горка, Гайстрава Полька, Глыбока Асака, Жабін Багон, Калена, Круглы Багон, Пажарніца, Шведава,** — настрайвае пісаць аб гэтай мясціне з яе 79 гаспадаркамі і каля 320 жыхарамі не ў традыцыйным „геаграфічна-статыстычным“ стылі. Тут нядаўняе мінулае сплялося з паданнямі і легендамі адлеглай старажытнасці ў дзівосны твор, насычаны тхненнем кашлатай пушчы. Вось хоць бы ўрочышча **Калена.** Некалі, відаць, недзе ў XIX стагоддзі, рускія інжынеры рабілі памеры Белавежскай пушчы, дзелячы яе прасекамі на кварталы. Адзін з іх пракладваў прасеку, пачынаючы ад Белавежы, другі ж ішоў з прасекай ад Семяноўкі. Абедзе прасекі не выйшлі проста адна на другую, атрымаўся загіб, ці інакш — „калена“. Або ўрочышча **Шведава,** якое знаходзіцца непадалёк Альхоўкі ў 63 квартале пушчы. Там узвышаецца аграмадны копец-курган, а легенда кажа, што ўзвялі яго шведы і пры гэтым згубілі шапку, па якую яны яшчэ сюды вернуцца. Наогул курганы параскіданы па ўсёй тутэйшай частцы пушчы, якая звецца **Броўск.** Найбольш жа іх у 37 і 49 кварталах, там яны цягнуцца па некалькі вёрст цэлымі шэрагамі.

Пачатак Альхоўцы дало, відаць, нейкае паселішча службовых людзей, абавязаных да працы ў пушчы. Ці часам не былі гэта **асочнікі-стральцы,** што яшчэ пры вялікіх князях літоўскіх былі пастаўлены, каб сцерагчы пушчу ад зладзеяў і тых, хто без князеўскага дазволу захацеў бы схадзіць у яе нетры на паляванне? Бадай, да тых часоў адносіцца легенда аб **стральцы і змею,** што расказаў мне звышшасцідзесяцігадовы альхоўскі старажыл і дасканалы сталяр **Янка Скепка.** А вось і яна. *Аднойчы адзін стралец ішоў па сваім абрубе, прыглядаўся ды прыслухоўваўся, ці дзе які-лень злодзей лесу не сячэ. Позняй вясной гэта было. На палянах трава ды квецце ў калена, а вакол птушыны рознагалосы хор. Ідзе так ён, ідзе і раптам чуе: недзе далёка ў глыбі абрубу нехта свіснуў. Стралец затрымаўся, прыслухоўваецца: ажно зноў чуе свіст. Западозрыўшы, што гэта нейкі злодзей падае знак свайму сябру, стралец таксама свіснуў. „А ну ж, — падумаў ён, — зладзюга сам ка мне ў пастку прыдзе“. І пачалі яны так перасвіствацца: свісне той у абрубе, і стралец яму ў адказ свісціць. І стаў стралец заўважаць, што свіст усё бліжэй і бліжэй у яго бок падыходзіць. Схаваўся ён за камель тоўстай елкі, наставіў стрэльбу, але на кожны той свіст сваім свістам адказвае. І тут чуе, што свіст зусім блізка раздаўся, бадай, у яловым маладняку, які ля далінкі кусціцца. Выглянуў стралец з-за камля — аж выпаўзае з гушчару аграмадны змей, воды бліскучыя ў яго, а на галаве залатая карона, і свішча. Атрупянеў стралец, мурашкі па спіне забегалі ў яго ды шапка на валасах ізнялася. Але ўсё ж прыцэліўся ён між змяіных вачэй і націснуў спуст. Гукнуў стрэл. Змей роспачна свіснуў, скруну́ўся ў аграмадную пружыну і пачаў вобзем біцца. Дзе ні ўдарыць — іскры з яго цела сыплюцца і сыры лес загараецца. Кі-*

**(Працяг на стар. 2)**



*На сенажаці. Фота Я. Цялушэцкага*

**Чаму дзіця не вучыцца роднай мове?**

# КАМУ ДАЦЬ У МОРДУ?

Шукаць віны дзесьці там, у кагосьці — гэта, ведаеце, кожны ўмее; гэтак найпрасцей.

Абвінавачваць можна і гістарычныя умовы. Вядома — у мінуўшчыне прыгнёт, цемната, розныя там русіфікацыі, паланізацыі ці „ніяка-фікацыі“. Усё было... Было і мінула. А мова? Мова жыве далей.

Не без віны, безумоўна, будзе і БГКТ. Яно, уявіце сабе, радасна сцвердзіла факт, што ў шматлікіх школах дзеці вывучаюць родную мову, падлічыла на паперцы статыстычныя даныя, упісала іх у адпаведныя рубрыкі, памясціла ў аптымістычных адчотах... і ўсё. Далей наша хата быццам бы з краю. Без нас гэтае школьніцтва раскруцілі, дык без нас яно, пэўна, і далей пакоціцца...

А яно, маеце табе, хоць і коціцца — а вось чамусьці з горкі.

У тым, даражэнькія, непрычым улады і міністэрствы.

Даруйце, калі ласка. Калі самі зацікаўленыя не маюць большых вымаганняў і патрэб, дык ніхто ім іх сілаю навязваць не будзе. Ёсць школы, кадры, падручнікаў даволі. А рэшта?.. А рэшта паводле лозунга вядомых гумарыстаў Ільфа і Пятрова: „Спасание утопающих делом самих утопающих“. Іначай і быць не можа.

А возьмем кадры... Сябра Гайдук, у лічбы закаханы, ад радасці пяе — штук столькі-та, і там і сям былі, так-сяк вучыліся, тое дасталі. А людзі дзе? — Звычайныя, жывыя?

На тое, каб добра выкладаць якую-кольвек мову, трэба яе не толькі ведаць. Трэба ў ёй вырасці, лічыць яе сваёю, трэба на ёй думаць, даражыць ёю трэба.

Ніхто мяне не пераканае, што чалавек, які не здзейсніў гэтакіх умоў, можа быць, пасля некалькігадовай падрыхтоўкі, у якім-кольвек ліцэі ці іншай, нават вышэйшай навуковай установе, паўнацэнным настаўнікам такога адказнага прадмета. Адгэтуль і вынікі.

А калі прымем, што на курсы ўдасканальвання ў Мінск, пад маркай выкладчыкаў беларускай мовы, не рэдка біелагі ездзілі?

А калі яшчэ настаўнік, скажам, як у Орлі (было такое), уласнае дзіцё з прадмета звольніць?

Дык хто ж сваё пашле? — вучыцелю ж там ведама ляпей.

Яновіч, зноў, успамінаў ліцэі. „І слухаць гадка“, — як Лонгінус, казаў. Нашто трубіць у трубы, калі тут дзеяння сапраўднага няма? І якраз тут, дзе быць яно перадусім павінна. Бо тут жа ж кадры даспяваюць. На якасць маюць гартавацца. У чым, скажыце? У чыстым фармалізме? Так выйдзе толькі „п-шык“ — як ў таго каваля. І таму мусім пытаць, не колькі наогул, а колькі ДОБРЫХ настаўнікаў выкладае сёння беларускую мову.

А справа зацікаўлення з боку настаўнікаў?

Ну што вы, людзі, малыя? Хто ж гэта сёння, скажаце, па-сапраўднаму будзе цікавіцца нейкай неабавязковай, дадатковай працай, калі і з тою, якая абвязкавая, не заўсёды ўправіцца паспеем?

Бачыце, якую жменю вінаватых налічылі? За дзень іх, гэтых ягадак, не перабраць. Усе — акрамя нас.

Ну, добра. А дзе мы? Так, так. Дзе — мы самі? Бо — мы, гэта ж адначасова і бацькі, і члены БГКТ, і актывісты, і шматлікія чытачы „Нівы“. Мы — гэта ж якраз тыя жыхары Беласточчыны, якія беларускую мову лічаць роднай. Што мы скажам?

Ці нашыя дзеці і блізкія вывучаюць і ці наогул ведаюць гэтую мову? Калі ласка, паважаныя дзеячы на розных нівах — вас першых пытаем. Вы тут найбольш свядомыя — ад вас і вымагаць!

Ці мы яе, мову нашую, як трэба шануем, на штодзень песцім, ганарымся ёю? Ці, як злачынцы, у паўслова моўкнем, каб родных гукаў з боку хтосьці — крый Божа! — не пачуў? Так, так.

Не на каго — самі ў люстэрка загляніце. Ну, што? Прыемна свой пабачыць твар?

Другому б за такое, здаецца, даў бы ў морду! Хто, аднак, будзе біць, калі гэта — ты сам?!

**Юрка Геніюш**



*Мінскі Палац культуры прафсаюзаў.*

**Карэспандэнцыя з Мінска**

# ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ

Гэта адно з прыгажэйшых будынкаў горада стаіць на Цэнтральнай плошчы беларускай сталіцы — Мінска. Яно належыць Рэспубліканскаму савету прафесіянальных саюзаў.

З раніцы і да позняга вечара тут не зачыняюцца дзверы — адны ідуць сюды, каб паслухаць даклад, лекцыю, сустрэцца з ветэранамі вайны і працы, іншыя — на чарговыя заняткі ў гуртқі мастацкай самадзейнасці. Самыя маладыя спяшаюцца на рэпетыцыю ў дзіцячую балетную студыю. І для кожнага тут знаходзіцца справа па яго жаданню. А ўмовы для выканання сваіх жаданняў у Палацы культуры ёсць. У Палацы знаходзяцца тры залы — глядзельная, лекцыйная і танцавальная, каля 80 яго пакояў аддадзена для заняткаў і рэпетыцый творчых калектываў.

Шматлікія формы працы Палаца культуры прыцягваюць сюды вялікую колькасць моладзі. Самымі папулярнымі ў Палацы з'яўляюцца калектывы, якім прысвоена званне „народных". Гэта ансамблі танца „Радуга" і „Равеснік", харавая капела, аркестр народных інструментаў і іншыя. Займацца ў іх можа кожны чалавек, ды да таго ж бясплатна, абы было толькі жаданне і здольнасці. Усе выдаткі, звязаныя з працай самадзейных артыстаў, пачынаючы ад шыцця касцюмаў і канчаючы арганізацыяй гастроляў, Палац культуры бярэ на сябе, штогод затрачваючы на гэта каля 400 тысяч рублёў.

Аднак самымі шматлікімі наведвальнікамі Палаца з'яўляюцца дзеці. Яны з захапленнем займаюцца ў гуртках, развіваючы ўсебаковыя здольнасці і схільнасці да тэхнічнай творчасці, да малюнкаў, да спеву, музыкі і г.д. Гэта дапамагае дзецям выбраць сваю будучую прафесію.

**Валянціна Трыгубовіч**
Фота **В. Казлова**



*Выступаюць гімнасткі Палаца культуры.*

(Працяг са стар. 1)

# АЛЬХОЎКА

*нуўся стралец наўцёкі. Доўгі час здалёк абыходзіў тое месца. Толькі назазімку, калі чорна стопа пасля замаразкаў надобра стала, рашыўся туды заглянуць. Зайшоў, а там ні ельніку густога, ні алешніку, ні нават тае тоўстай елкі — адно пні абгарэўшыя навокал. І след па змею таксама прапаў.*

Не ў легендзе, але ў пісаных дакументах чытаем, што вёска Альхоўка належала ў 1786 годзе да фальварка Нараўка. Жылі людзі тут бедна: з бульбы на квас перабіваліся. Перад вайною ўтрымоўваліся пераважна з працы ў лесе ды вывозкі драўніны. Вазілі лес аж са Свіслацкай пушчы ў Нараўку, а карпіну ў майдан, што быў на Бару. Некаторыя выцесваннем дубовай клепкі на бочкі займаліся. Вакол такая топель была, што дровы ва ўрочышчы Выжары ўлетку нарыхтоўвалі, а зімой вывозілі, у Нараўку ж ездзілі **выбрэдамі**, г. зн. пакрытай вадою лясной дарогай.

На палетках ды лугах, якія тут завуцца **Аполымя, Баркі, Выжарыэ, Гароды, Бор, Бракі, Зубрыёўшчына, Майдан, Папярэчнае, Трасціна**, ураджаі слабыя былі. Гітлераўцы ў 1942 г. вывезлі ўсіх жыхароў, а вёску зраўнялі з зямлёю. Жыццё вярнулася сюды толькі пасля вызвалення. Старанныя і працавітыя альхаўчане адбудаваліся, дзеці, закончыўшы пачатковую школу ў сваім сяле, падаваліся вучыцца далей. Адсюль паходзіць інжынер меліярацыі **М. Лукша**, полкоўнік Войска Польскага **М. Скепка**, эканаміст **Я. Вярбіцкі**, настаўнікі **М. Варанецкі, Я. Галабурда** і шэраг іншых. Многія закончылі сярэднія школы і тэхнікумы. Нямала іх яшчэ вучыцца ў розных гарадах.

Ураджаі на палях цяпер тут падвоіліся, але альхаўчане, управіўшыся на сваёй гаспадарцы, не супраць, каб падзарабіць на баку. Амаль з кожнага дома нехта працуе ў пушчы ці на чыгунцы або ў ляўкоўскай цагельні. Святло, крама, тэлефон, паўстанак ПКС-у, тратуары — усё гэта надта красамоўна сведчыць пра сённяшні дзень пушчанскай Альхоўкі.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## ШТО НОВАГА?

# ГРОС — „ГВОЗД"

Гэткай мітуслівай раніцы ў шпрынгераўскім муравейніку не памятае нават швейцар. А пачалося ўсё з таго, што нехта шапнуў босу пра падрыхтоўку за берлінскай сцяной да Дня Перамогі над фашызмам.

— Вось падзівіцеся, пан Шпрынгер, нават адсюль, з акна кабінета, відаць, як на Унтэр дэн Ліндэн вывешваюць плакаты. Каля самых Брандэнбургскіх варот — „Няхай жыве перамога над фашызмам!", а там далей — „Вітаем 30-годдзе разгрому трэцяга рэйха!"...

— Ім трэба сапсаваць абедню! — катэгарычна выпаліў узрушаны кароль друку. Але як? Як?

І пайшло рэха па ўсіх паверхах небаскроба: як? як? Яно паўтаралася ў той дзень дзесяткі разоў у кожным кабінеце. Усе ламалі галовы. Асабліва стараліся тыя, у каго яны былі кантужаныя ў час мінулага бліц-крыга. Як на тое ліха, ніводная прапанова не падабалася босу. Дыверсіі і паветраныя шары не падыходзілі — іх час мінаваў. К вечару агулам вымучылі — зноў жа старую правакацыйную ідэйку — тэрмінова арганізаваць у Нюрнбергу зборышча судэцкіх немцаў, а ў Эсене — сілезскага зямляцтва. Пабольш піва і сасісак і няхай яны два дні — 8 і 9 мая — гарлапаняць свае звычайныя лозунгі: „Вярнуць Германіі граніцы 1937 года", „Далоў усходнюю палітыку" „Рэйх ад Мааса да Нёмана"... Калі не па той бок берлінскай сцяны, дык хоць па гэты нарабіць шуму. І, вядома, распісаць гэты шабаш на ўсю катушку.

— Гэта само сабой, — ухваліў бос, — а дзе гвозд нумару?

На пошукі „гвазда" пайшлі наступныя суткі. Нарэшце, ён быў знойдзены. На ролю „гвазда" прапаноўваўся грос-адмірал Дэніц — пераемнік фюрэра. Хоць аднадзённы, але ж апошні правіцель трэцяга рэйха. Прымалася ў разлік і тое, што пад плешкай гэтага грос-„гвазда" быў прыгавор Нюрнбергскага трыбунала і 10 гадоў адзіночнай камеры ў турме Шпандау. Дэніца і вырашана было падняць на шчыт. Каардынаты яго вядомыя: мястэчка Аумюле каля Гамбурга.

Уперад!

— Вы цікавіцеся, як пачалася другая сусветная вайна?! — ажывіўся стары марскі воўк. — Пахвальна, пахвальна. О, гэта быў трыумфальны марш па Еўропе! Вена, Прага, Варшава, Парыж... На жаль, уся слава тады перапала армейскім генералам. Так што прабачце, я дэталей не памятаю. Я лепш памятаю яе канец. Тады я быў гэтым самым, як яго... фюрэрам.

— Да канца мы яшчэ дойдзем, пан адмірал. А цяпер давайце ўсё пачнём спачатку.

— Тады гэта ўжо будзе трэцяя сусветная! — узрадаваўся стары ваяка. — Магчыма, аб'явіўся новы фюрэр?

— На жаль, не аб'явіўся...

— Шкада, вельмі шкада. А то ўжо надта доўгі адпачынак мае Еўропа. Падумаць толькі: трыццаць гадоў без вайны. Такога яшчэ не здаралася. Гэта, відаць, усё Саветы, усё камуністы ставяць шлагбаум на шляху вайны. А вы яго не спрабавалі звярнуць, гэты шлагбаум, як мы ў верасні 39-га?

— А што было далей, пан адмірал?

— Памятаю, нашы дайшлі да Брэста. А я стаў тады каралём Балтыкі. Што хацеў, то і рабіў. Цудоўны быў час!

— Доўга так працягвалася?

— На жаль, нядоўга. Скажу вам па сакрэту, што нейкі яфрэйтар, прыгадваецца мне, усе нашы карты блытаў. То ён пацягне нас на ўсход, то на захад. Яму, відаць, карцела ўвесь шарык таго... адразу заграбастаць. Мы так і сноўдаліся, то туды, то сюды.

— І чым гэта скончылася?

— Пра гэта лепш не пытайце. Ганебна... Горш не прыдумаеш. Мы апынуліся ў Нюрнбергу. Пасадзілі нас, як цяпер памятаю, на доўгія лаўкі, ды ў адзіночныя камеры. Там я спрабаваў адшукаць таго яфрэйтара. Але яго чамусьці не аказалася. Вы выпадкова не ведаеце, куды ён знік?

— Сцвярджаюць, што фюрэр пакончыў жыццё самагубствам у сваім бункеры ў Берліне.

— Шкада небараку. Паміж намі кажучы, я так і прадчуваў, што ў яго штосьці з галавой... таго. Бо ўтравіць Германію ў вайну на два фронты мог толькі, прабачце, вар'ят. Раілі ж яму мы, генералы і адміралы: спачатку ўсход, потым захад. Не, не паслухаўся, усё пераблытаў: і захад, і ўсход. І вось цяпер ні таго, ні другога.

**В. Вольскі**
*(„Звязда")*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 12.VII.** 14.10 Program I proponuje. 14.25 Program dnia. 14.30 Informacje, Towary, Propozycje. 14.50 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 17.00 Dziennik. 17.10 Obiektyw. 17.30 Piosenka dla Ciebie. 18.15 Lektury Pegaza. 18.30 Postaw się nie zastaw się. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy Humphreya Boharta: Szantaż — film fab. ameryk. 22.10 Dziennik. 22.30 Program rozrywkowy. 23.20 Wiadomości sportowe.

**Niedziela 13.VII.** 8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodzieży: Przygoda na wagarach — film fab. NRD. 10.10 Antena. 10.30 W starym kinie: 14 lipca — film fab. fr. 12.00 Przeboje na wystawie kwiatów — pr. rozr. TV CSRS. 12.35 Piórkiem i węglem. 13.00 Dziennik. 13.20 Tydzień. 13.50 program estradowy. 14.30 Refleksje obywatelskie. 14.45 Losowanie Toto-Lotka. 15.00 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 17.05 Tele-Echo. 18.10 Tele-Retro. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dorosłych. 20.30 Podpalacze północy — film ser. fr. (Nowe przygody Vidocqa) odc. IV. 21.25 Festiwal Piosenki Żołnierskiej w Kołobrzegu — Koncert Galowy. 22.15 Informacyjny magazyn sportowy.

**Poniedziałek 14.VII.** 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.30 TELEFERIE. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: Aleksy Arbuzow — Opowieść starego Arbatu. 22.05 Mozaika z Izabelą Nawe — pr. baletowo-muz. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Wtorek 15.VII.** 9.45 Studio SOJUZ — APOLLO. 13.00 Studio SOJUZ — APOLLO. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i małym ekranie. 17.30 Wędrówki Słowian (Fakty, Opinie, Hipotezy). 18.05 Nie tylko dla pań. 18.25 Lato z pomysłem. 19.05 Dobranoc. 19.15 Dziennik. 20.20 Przypominamy, radzimy. 20.25 Studio SOJUZ — APOLLO. 21.15 Rancho w dolinie — film ser. USA. 22.15 Dziennik. 22.30 Wiadomości sportowe.

**Środa 16.VII.** 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Losowanie Małego Lotka. 17.10 Studio: SOJUZ — APOLLO. 18.00 Poligon. 18.20 Jarlan odmładza Jarosław — pr. publ. 18.35 Zły omen — film ser. węg. (Miasto w czerni). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kozi róg — film fab. bułg. 21.55 Czym żyje świat. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe. 23.15 Informacje, Towary, Propozycje.

**Czwartek 17.VII.** 16.15 Program dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 16.50 Studio: SOJUZ — APOLLO. 17.40 TELEFERIE. 18.35 Studio: SOJUZ — APOLLO. 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio: SOJUZ — APOLLO. 21.15 Alibi zbyt doskonałe — film ser. USA. 22.25 Pegaz. 23.05 Dziennik. 23.20 Wiadomości sportowe.

**Piątek 18.VII.** 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Tuzin — teleturniej. 17.30 Delfiny — film ser. fr. (Mała Encyklopedia Zwierząt). 18.05 Studio: SOJUZ — APOLLO. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Człowiek w przechodnim podwórku — film ser. radz. 21.10 Studio: SOJUZ — APOLLO. 22.00 Panorama. 22.45 Dziennik. 23.00 Wiadomości sportowe.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 11.VII** — 8.45 Film fab. 15.30 Film fab. 19.30 Koncert (Ostankino). 21.15 Spartakiada Narodów ZSRR.

**Sobota 12.VII** — 9.30 Koncert. 11.00 Film fab. 14.05 W świecie zwierząt. 16.15 Sport. 17.50 Piosenka — 75. 18.20 Film fab. 19.30 Panorama film.

**Niedziela 13.VII.** — 9.00 Koncert. 11.30 Film fab. 14.10 Koncert. 14.40 Panorama międzynar. 16.35 Cyrk. 17.00 P. nożna. Dynamo (Moskwa) — CSKA. 2 połowa. 18.00 Klub film. 19.30 Spektakl. 20.50 Mistrz. świata w szermierce.

## КІНО

**Białowieża** Doktor Popual — fr. 15—16. Brylanty pani Zuzy — pol. 17—18. Pięć łatwych utworów — 19—20.

**Czyże** Gra złudzeń — wł. Po drugiej stronie słońca — angl. 16—20.

**Dubicze Cerkiewne** Szaleństwo miłości — norw. Trzy orzeszki dla Kopciuszka — czes. 16—20.

**Gródek** Jutro będzie za późno — czes. 19—20.

**Kleszczele** Ostatnia gra Karima — rad. 15—16. Rancho Texas — pol. 17—18. Banda — pol. 19—20.

**Michałowo** Drogi mężczyzn — czes. 15—16. Porwany zza młodu — NRD 17—18. Temat na niewielkie opowiadanie — radz. 19—20.

**Milejczyce** Mój kochany Robinson — NRD 15—16. Kartki z młodzieńczych lat — radz. 17—18. Noc na Karlsztejnie — czes. 19—20.

**Narew** Kasztany miłości — wł. Weronika — węg. 16—20.

**Narewka** Opowieść w czerwieni — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 16—20.

**Nurzec** Slub bez obrączki — buł. 15—16. Romantyczni — pol. 17—18. Bezdomny — buł. 19—20.

**Orla** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. Małżonkowie roku II. — radz. 16—20.

**Rajsk** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. Narkotyk — fr. 16—20.

B.Z.Graf. zam. 1805 P-1

 

# Нашы паслы

У выніку новага адміністрацыйнага падзелу краіны наступілі некаторыя змены ў арганізацыі працы паслоў, якія свае мандаты атрымалі ад насельніцтва Беластоцкага ваяводства ў старых межах. Раней яны былі аб'яднаны ў адзін ваяводскі пасольскі клуб. Цяпер на аснове рашэння прэзідыума Сейма раздзяліліся на 3 пасольскія клубы — у залежнасці ад выбарчай акругі, у якой былі выбраны пасламі.

Жыхароў Беластоцкага ваяводства ў яго новых межах у Сейме ПНР цяпер прадстаўляюць:

**Ян Война — ПАРП,**
**Уладзіслаў Задыковіч — ЗСЛ,**
**Казімір Галіцкі — СД,**
**Станіслава Карна — ПАРП,**
**Анна Келч — ПАРП,**
**Здзіслаў Куроўскі — ПАРП,**
**Крыстына Маршалак-Млынчык — СД,**
**Станіслаў Стома — беспартыйны.**

На сваім першым пасяджэнні ў новым саставе, якое адбылося 14 чэрвеня г. г., пасольскі клуб Беластоцкага ваяводства пастанавіў, што яго працай будзе кіраваць сакратар, пасол Крыстына Маршалак-Млынчык.

Надалей будуць яны праводзіць частыя сустрэчы са сваімі выбаршчыкамі ў розных мясцовасцях ваяводства, а таксама будуць прымаць усіх патрабуючых і зацікаўленых у сядзібе ваяводскага пасольскага клуба, якая знаходзіцца ў Беластоку ў гмаху ваяводскага ўпраўлення.

У знак падзякі за самаахвярную працу для развіцця Беласточчыны ваяводская рада Беластоцкага ваяводства ўсім паслам ад Беластоцкай зямлі ў даўнейшых яе межах прызнала залатыя адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны". (вр)

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XIII**

**Фальклорныя творы.** Верш „Каму што" вылучаецца лёгкасцю. З'яўляецца ён, праўдападобна, паэтычнай перапрацоўкай анекдота. У беларускай традыцыі не мала жартаў, заснаваных на нацыянальным грунце. Закранаюцца ў іх розныя камічныя схільнасці прадстаўнікоў розных народаў. У даным выпадку Гарун выкарыстаў жарт, які базіруецца на пэўных псіхічных схільнасцях беларуса, украінца, цыгана. Сюжэт твора просты: беларус, украінец, цыган сустракаюцца ў карчме. Супольная выпіўка настройвае іх філасофска. Пачынаюць разважаць, што яны зрабілі б, калі б былі ўзведзены на каралеўскі трон. Аказваецца, што кожны з субяседнікаў звязвае з каралеўскім прастолам адметныя ўяўленні, падзеі і намеры.

Беларус:

— Вось я, здаецца, добра б жыў,
Гуляў бы я тады бяспечна,
З сваім народам бы дружыў,
Кулеш ўсё б еў ды яечні.

Украінец:

Вось я іначай бы зрабіў:
У садку пад вішнею ляжаў бы,
Увесь урад пры мне б тут быў,
А я б так правіў ды спяваў бы.
А есці-еў бы з салам хлеб,
Крышыў галушкі б я зубамі,
І сала з салам, і яшчэ б
Я сала так бы еў часамі.

Цыган:

Каб трапіў я у каралі,
Дык мне ўсё гэта было б мала.
З казны б украў я тры рублі,
Украў каня — і... махні драла.

Так Гарун у лёгкай форме жарту ахарактарызаваў тыповыя псіхалагічныя схільнасці трох народаў.

Увагі заслугоўвае таксама твор „Шчасце Мацея". Гэта таксама апрацоўка народнага матыву. Можам яе назваць апісальнай паэмкай. Твор пранізаны народным гумарам, які датычыць не толькі чалавечых, але і боскіх спраў. А вось змест „Шчасця Мацея". Жыве на свеце добрасумленны селянін Мацей. Але вядома, што той, хто чэсны, мусіць быць убогі. Бедны таксама Мацей. Бяссільны ў барацьбе з жыццём, накіроўваецца ён у неба з надзеяй знайсці там рэцэпт на шчасце. Па дарозе сустракае ён ездака. Аказваецца, што гэта святы Юры, які едзе з візітам да бога. Мацей просіць святога, каб ён спытаў у бога, як яму, селяніну, пазбыцца бяды. Каб Юры не забыў сялянскай просьбы, Мацей выпрашвае ў яго Залатое стрэмя. Гэты прадмет меў быць звернуты святому, калі ён прывязе Мацею божы адказ. Юры вяртаецца да Мацея і гаворыць, што бог яму забараняе красці, але калі ён нешта пазычыць ад людзей, дык не павінен спяшацца з аддаваннем. Гэта павінна палепшыць жыццё Мацея. Селянін робіць бліскавічны вывад: — не аддае Юрыю Залатога стрэмя, даводзячы, што ён яго не атрымаў. Юры, рад не рад, едзе сваёй дарогай, а Мацей вяртаецца з Залатым стрэмем дахаты і, прымяняючы божую параду, пачынае жыць у дастатку. Які канчатковы вывад? Калі хочаш быць шчаслівы і багаты, не будзь добрасумленны і чэсны. Зразумела, што ўвесь твор і фінальная канклюзія маюць гумарыстычны і іранічны характар. Нельга трактаваць іх даслоўна, але нельга і не бачыць пэўнага элементу праўды ў гэтай няпраўдзе.

## Адгалоскі

# Nahnusia, napijusia...

Дзве кніжкі Галіны Аўдэрскай „Ptasi gościniec" і „Babie lato" сталі значнай падзеяй у польскім літаратурна-грамадскім жыцці. Галоўны герой, Сымон Дрозд, рэцэнзентамі названы „носьбітам польскага лёсу", бедны палескі рыбак, выхаплены гісторыяй на вялікую арэну, становіцца дэзерцірам падчас нямецкага нашэсця на Польшчу ў 39 годзе, уцякае ў роднае, ціхае Марочнае, дзе неўзабаве перажыў вывазку ў Сібір, адкуль трапіў у Людовае Войска Польскае, ваяваў пад Леніна, дайшоў да Берліна, пасяліўся над Одрай, тужыў па пушчанскай бацькаўшчыне, але ведаў, што цяпер яго айчына тут, бо тут — Польшча. Стаў членам якасна новага, цывілізаванага грамадства. (Szymon Drozd, poleszucki rybak, kościuszkowski żołnierz...) Своеасаблівая, бязвольная паслухмянасць Сымона выклікае слушныя пратэсты з боку некаторых рэцэнзентаў, нпр. выдатнага Мацёнга: няпраўда, што гісторыя так абсалютна кіруе чалавечым лёсам — без найменшага выбару. (Toż ta istoria, cholera jej w bok, szarpała mną...) Аднак жа гэта пратэстацыя мала абгрунтаваная, занадта павярхоўная, тэарэтычная, каб не сказаць, — не называючая галоўных прычын гігантычнай вандроўкі мільёнаў, з усходу на захад, мільёнаў, якім нацыянальныя рацыі паслужылі ўсяго толькі матывацыяй рашэнняў рэпатрыявацца ў Польшчу, рашэнняў эканамічнага характару перш за ўсё. (— Dzie on ciapier, twoj dom — пачуў Сымон запытанне Сонькі Карпынюк у спаленым Марочным).

Дрозд выбраў над Одрай дом, мураваны, вялікі, з ганкам, як у пана ляснічага, марачанскага, з пакоямі ды дзвярыма, незлічонымі, з садам, забудовай і г.д. Выклікаў з Марочнага жонку Марыну. На сытасць! (A ja już nie ten, co dawniej: dom mój leśniczówkę przypomina, pies leży na ganku...)

Марына сумуе:

— A dzie łastauka? Nie robić hniazda pod strechoju? ...Szto heta? Żoutyja babki leciać?

— Toż to liście, —адказвае Сымон.

І ад гэтага месца пачынаецца густая проза, хвалюючая вялікай праўдай: чалавек не можа жыць без айчыны, як дрэва — без карэнняў. Яна мроіцца яму на яве і ў сне! Дом — чужы, поле — не сваё, лес — непрыветны, людзі... Сымон „прымаецца" на новым месцы, яму айчынай з'яўляюцца рацыі, ідэя: my, najpierwsze numery над Одрай, на спрадвечнай, польскай зямлі. Айчына ж Марыны ўся з эмацыянальнасці і таму памрэ яна, самотна, як на чужыне, так і не пусціўшы карэнняў у навіну:

Nahnusia, napijusia,
Sam na sebe podywlusia,
Szczo wże nazad ne wiernusia...

Паўтарала:

— Proszli moi hody, hody maładyje. Jak listok po wodzie.

Сымон злуецца, што Марына з'яўляецца нацыянальна абыякавай. Дачка Кася, узгадаваная над Одрай, саромеецца беларускай гутаркі сваёй маці і нават — іранізуе!

Солтыс наводзіць парадкі сярод рэпатрыянтаў у прыадранскай вёсцы:

— Metryka twoja jest?
— Szto ty?
— Metryka żony?
— Dy szto ty?
— A metryka ślubu?
— Dyk sam wiedajesz...
— Kiedy urodził sia syn Józef?
— Naszto heta? Idzi, papytajsia żonki.
— Ty szto, zdureu? Sołtys do ciebie mówi. Nu, kiedy?

Паказваючы, як Сымон знайшоў айчыну, а яго Марына — наадварот, страціла яе, Аўдэрская ўводзіць трагічны матыў, які характэрны кожнаму апісанню пералому ў жыцці народа.

Яшчэ — колькі слоў аб мове твора, напісанага на манер польскай перыферыйнай гаворкі на Беларусі. Аўдэрская надта ж непаслядоўная ў перадачы гутарковых асаблівасцяў — таксама і беларускіх (уводзіць мяккае „рь" — hor'ko — якое пажылы жыхар беларускіх земляў ніколі не зможа вымавіць). Беларускія, украінскія і рускія словы пісьменніца скарыстоўвае, хутчэй за ўсё, у сімвалічным сэнсе дзеля паказу каларыту асабовасці палякаў з т.зв. „крэсаў". Беларускія моўныя формы, відаць, найболей даступныя польскаму чытачу — у адрозненне ад украінскіх

(Працяг на стар. 6)




*Выступае фальклорная група з Арэшкава.*



*Удзельнікі фэстына.*



*Першыя ўзнагароды атрымалі ў аглядзе кароў Янка Роля з Тафілаўцаў, Аляксей Томчук і Андрэй Дарошук, абодва з Карыцінскай.*

# ФЭСТЫН У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

Нядзеля 22 чэрвеня ў Дубічах Царкоўных адрознівалася ад усіх іншых нядзель. На вялікі пляц на скраю вёскі, каля хвойніка, прыйшло мноства людзей. Праз громкагаварыцелі плывуць мелодыі песень. Чырвоныя і бела-чырвоныя сцягі надаюць павагі і гавораць аб вялікай урачыстасці. Людзі сабраліся на народны фэстын БГКТ, прысвечаны 30-ай гадавіне перамогі над фашызмам. На гэтую тэму і былі выступленні: уступнае слова адкрываючага фэстын начальніка мясцовай гміны Мікалая Чыквіна, абшырны даклад старшыні гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандра Іванюка і выступленне старшыні ГП БГКТ Мікалая Самоціка.

Калі сышоў з трыбуны ганаровы прэзідыум фэстына, які склаўся з прадстаўнікоў розных арганізацый з Беластока, Гайнаўкі і мясцовай гміны, тады пачалася мастацкая частка. Першымі былі Люба і Аля Гаўрылюк (маці з дачкой) з Беластока. Спадабаліся яны ўдзельнікам фэстына. Пасля іх выступалі з фальклорнымі мясцовымі песнямі жанчыны з Арэшкава. Харавы калектыў з Белавежы пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука з вялікім поспехам даў даўжэйшы канцэрт. Канферанс'е быў Янка Крупа.



*Адзін са страганаў, у якім прадавалася ўсё тое, што цікавіла дзяцей.*

Удзельнікі фэстына ўбачылі і багатую спартыўную праграму: і валейбол, і футбол, і стральбу, і велагонкі на 18 км. Паказы моды і паказы пажарнікаў выклікалі многа зацікаўлення. Упершыню на фэстыне быў арганізаваны агляд кароў. Арганізавала яго сельскагаспадарчая служба гміннага ўпраўлення ў Дубічах Царкоўных. Больш 20 кароў было прыведзена на гэты агляд-конкурс. Журы прызнала 9 грашовых узнагарод у трох катэгорыях: адкормленыя каровы, малочныя каровы і цельныя ялоўкі.

Фэстын прайшоў на высокім арганізацыйным узроўні. Было на што паглядзець, было што з'есці і выпіць. Падрыхтаваны ён быў гайнаўскім аддзелам БГКТ, гмінным упраўленнем у Дубічах Царкоўных, раённай культурна-асветнай парадняй у Гайнаўцы і іншымі арганізацыямі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



 

## Наш каляндар



# Уладзімір Дубоўка

„Як многа ў маёй айчыне пекнаты", — сцвярджае паэт, прайшоўшы неабсяжны шлях, што яго „вадзіў праз горныя хрыбты, цераз Байкал і за Байкалам", але ўсюды ў яго сэрцы неўміруча яснела тая старонка, пра якую ён усклікваў: „О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет!"

Уладзіміра Дубоўку з вясковай гушчы паклікалі да актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве і літаратурнай творчасці бурлівыя падзеі, пачатыя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй, пра якія ён потым скажа: „Гэтая сіла збудуе свет, новы свет — права рукі мазольнай". Нарадзіўся паэт 15 ліпеня 1900 г. у вёсцы Агароднікі на Віцебшчыне. Пасля заканчэння ў 1918 г. Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі два гады працаваў ён настаўнікам, затым у бурлівыя 1920-21 гады служыў у Чырвонай Арміі, а ў 1921-1930 г.г. быў адказным рэдактарам беларускага тэксту збору Законаў Саюза ССР. У міжчасе закончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Я. Брусава, быў лектарам Камуністычнага універсітэта народаў Захаду ў Маскве, інспектарам Народнага камісарыята асветы РСФСР, сакратаром пастаяннага прадстаўніцтва БССР у Маскве.

Калі 28 мая 1921 г. у газеце „Савецкая Беларусь" паявіўся яго першы верш, за плячыма паэта быў ужо багаты жыццёвы вопыт і моц назіранняў, што дазвалялі яму ўспрымаць чалавека і навакольны свет у непарыўным арганічным адзінстве, а матыў „Новы свет нас наперад заве, — не шкадуй сваіх сіл для Айчыны!" стаў асноўным у яго творчасці. І вынікаў ён не з надуманага лозунга, але з улюбёнасці да жыцця і яго прыгажосці, пра якую гаворыць: „Жыві хоць лішніх сто гадоў — красу праславіць немагчыма. Патрэбна сотня мастакоў, ды ўсё каб з яснымі вачыма.." І гэты ясны, пагодны позірк паэта на свет, сваю радзіму і перамены ў ёй праходзяць чырвонай ніццю праз усе зборнікі яго вершаў („Строма" 1923 г., „Трысцё" 1925 г., „Credo" 1926 г., „Надя" 1927 г., „Палеская рапсодыя" 1961 г.) і паэмы („Там, дзе кіпарысы" 1925 г., „І пурпуровых ветразей узвівы" 1939). Асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі У. Дубоўка шмат месца ў сваёй творчасці прысвячае фальклору беларускага і іншых народаў Краіны Саветаў, пераплаўляючы гэтую залатаносную руду народнай мудрасці і натуральнай красы ў абаяльныя паэмы і вершы. Многа ўвагі прысвячае творчасці для юнага чытача. З-пад яго пяра выйшла шэраг зборнікаў вершаваных казак („Цудоўная знаходка" 1960 г., „Кветкі — сонцавы дзеткі" 1963 г., „Дзівосныя прыгоды" 1963 г., „Мілавіца" 1964 г. і інш.), а таксама прыгодніцкая аповесць „Жоўтая акацыя" (1967). Займаецца перакладамі англійскай паэзіі, асабліва Дж. Байрана і В. Шэкспіра.

Творчасць У. Дубоўкі — гэта нястомны паход за прыгожым у жыцці, як гэта ён сам кажа:

„А мы няспынна ходзім у паходы,
сваю шукаем залатую жылу,
каб для ўсяго працоўнага народа,
айчыне дарагой яна служыла".

(іс)

## ФАЛЬКЛОР

### ХРЫСЦІННАЯ




*Чы я ў тэбэ нэ жона,*
*чы нэ господыня?*
*Тры дніе хаты нэ мэла,*
*смієтя нэ носіла,*
*тры дніе хаты нэ мэла,*
*смієтя нэ носіла.*

*Купі, купі, мой міленькі,*
*сівую кабылу:*
*будэм сміете вывозіті*
*з горыэ на доліну,*
*будэм сміете вывозіті*
*з горыэ на доліну.*

Ад Настасії Паўлючук, 1905 года нараджэння, і Марыі Паўлючук, 1906 года нараджэння, вёска Цялушкі Заблудаўскай гміны, запісаў 31 студзеня 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

Пісьмо паклікала ў дарогу

## ПРА БЕЗАДКАЗНАСЦЬ І ЭЛЕКТРАЛІЧЫЛЬНІК

Пісьмо напісаў да нас пастаянны чытач „Нівы" Рыгор Аксютыч з калоніі вёскі Плянта Нараўкаўскай гміны. Прасіў дапамагчы або хаця параіць штонебудзь. У сакавіку гэтага года ў яго дом быў падключаны электрычны ток. Гэтая небывалая падзея ўцешыла ўсю сям'ю. Упершыню засвяціліся электралямпачкі! Але гэтая радасць была кароткая. Усё з-за электралічыльніка. Той як раскруціўся, дык не затрымліваўся нават тады, калі ўсё было выключана з разетак і не гарэлі лямпачкі... Гэта вельмі занепакоіла гаспадара. Ён адразу паведаміў аб гэтым энергетычнай установе ў Гайнаўцы. Але ніхто з электраманцёраў не прыехаў у Плянту. Крыху счакаўшы, Р. Аксютыч пазваніў па тэлефону яшчэ раз, і дыжурны дыспетчар пацешыў, што нехта даставіць новы электралічыльнік. Так сыйшоў адзін месяц, пасля другі і трэці. Рыгор Аксютыч напісаў яшчэ прашэнне і паслаў кіраўніцтву гайнаўскай энергетычнай установы. Адказу так і не дачакаўся. Здавалася, што гэтай справы ніхто не зможа рашыць. Гайнаўская ўстанова кожны раз, калі гаспадар званіў па тэлефону, адказвала, што прыедуць праз пару дзён. Але гэтыя адказы не маглі цешыць селяніна. 26 мая напісаў ён пісьмо ў рэдакцыю „Нівы".

І вось наша рэдакцыйная „Волга" гойсае па палявых калдобістых, на наша шчасце, сухіх дарогах. Гаспадыню Любу Аксютыч сустракаем у полі. Якраз у яе спыталі, як лепш прабрацца да сялібы пад ляском. Пані Люба паказвае нам гэты няшчасны электралічыльнік у сенцах.

— Во, гад, круціцца, паглядзіце! — кажа яна. — А дома ж нічога не падключана. На жаль, мы з шафёрам не змаглі яго затармазіць. Мы не электраманцёры. Адно пацешылі, што работнікі кампетэнтнай установы ўладкуюць усё як трэба, па-людску і не дапусцяць здзерства.

— Мы гонім спаць сваіх дзяцей раней, чым трэба. Не пазваляем даўжэй глядзець тэлеперадачу, — не паўстрымоўваецца гаспадыня. Калі так будзе круціцца гэты лічыльнік, дык мужавай месячнай зарплаты не хопіць за „электрыку". Муж дык хадзіў нават у павятовы камітэт партыі. Але хто цяпер гэтым зоймецца! Кажуць, што ў іх пільныя справы не дазваляюць, што цяпер рэарганізацыя і што прыйшлі не ў час. Няма рады на безадказнасць гайнаўскай энергетычнай установы. Трэба хіба недзе пашукаць газавую лямпу...

Пасля нашага візіту ў Плянце прайшоў тыдзень. У пачатку чэрвеня знайшлі мы час зайсці ў энергетычнае бюро. На гэты раз суцяшальны адказ. Лічыльнік Рыгора Аксютыча быў ужо зменены на другі. Уласнік яго ў нічым не пераплаціў за электраэнергію.

Пішам пра ўсё гэта, бо ведаем, што гэта не адзіны выпадак. Сапраўды, каб дабіцца свайго ды нешта ўладкаваць у энергетычнай установе ў Гайнаўцы трэба і нервы сапсаваць і шмат часу страціць.

(ця)

## У новай кавярні

Гайнаўка нядаўна атрымала кавярню „Верас", якой можа пазайздросціць не адзін ваяводскі горад. Яе густоўнае абсталяванне выканалі самі вучні гайнаўскай прафесіянальнай школы.

Ужо кавярня мае сваіх пастаянных наведвальнікаў, якія палюбілі яе за добрую каву і смачныя крэмы.

У кавярні „Верас" добра адчуваюць сябе не толькі нашыя, але і замежныя турысты, якія прыязджаюць наведаць Белавежскую пушчу. (ця)

## Так бывае...

# Праўда крычыць

Пазнаёміўся з ёю ў Гайнаўцы, калі працаваў у мэблярні. Яна працавала на тартаку. Пагнаўся на прыгажосць і статнасць, людзей не распытаў з тае вёскі, адкуль яна родам. Таксама не прыглядзеўся, не прыслухаўся да характару прыгажуні. І забыў пра пагаворку: „Паспяшыш, людзей насмяшыш".

Распачаў „самастойнае" жыццё. Вёска Старына ляжыць каля самай Белавежскай пушчы, і даязджаць да працы не так цяжка было. У хаце заставалася старая маці Колі, і для іх яна старалася, як магла. Ды яны таго не разумелі. Нявестка неўзлюбіла цешчу, пачала сварыцца з ёю, біцца. Марта была ўдавой і не было каму ўступіцца за яе. Сын быў мяккага характару і цягнуў за жонкаю.

У хуткім часе выявілася, што нявестка да гарэлкі вялікі аматар. З працы вярталася позна, п'яная, у хаце рабіла пекла. Марта хавалася па суседзях. Ва ўдавы былі яшчэ два сыны, але далёка яны — адзін у Г., другі ў Б. Дачка вельмі хацела забраць маці да сябе — замужам яна ў іншай вёсцы. Маці аднак не схацела. Як гэта? Гаспадарку і добрыя будынкі пакінуць, каб яна ўсё распусціла, дабро пусціла на „чыстую" ваду? О, не, так не будзе! Гэта ж грэх!

А нявестка ўсё больш бушавала. Выкінулі яе з працы. Нарадзіла сына. Першыя дні сяк-так даглядала. Потым, каб не плакала, пачала паіць півам ці віном. І дзіця спала, а яна як магла, гуляла. З мужыкамі каля крамы закладалася, што вып'е 20 бутэлек піва адразу. І выпівала, валялася каля плоту. Муж у той час быў на працы ў Гайнаўцы, цешча ў полі, дзіця спала ў хаце ад віна і піва, недагледжанае, бруднае.

Муж Коля ўжо агледзеўся, што ўляцеў, што жыцця няма. Пачаў біцца, сварыцца, але куды яму да бойкі з такой здаровай бабай? Натаўкла, дык больш баяўся чапаць яе.

А віном і півам дзіця сваё звыраднелая маці папсавала. Ножкі ў яго, як алоўкі, і неяк непадобнае яно на іншых дзяцей, пэўна, і жыць не будзе. Ад калыскі мучыцца на белым свеце па віне роднай маці і слабахарактарнага бацькі.

Людзі, чаму вы дапусцілі да таго, каб подлая маці сваё дзіця зрабіла калекай? Ці злякаліся яе пагроз?

А Марта? Марта бачачы, што бяда, зямлю сваю здала дзяржаве за рэнту. Можа таму, нявестка і сын вымушаны былі пакінуць матчыну хату і перасяліцца ў вёску — на радзіму жонкі. Гэта аднак не змяніла жыцця, толькі месца. Надзя гуляла і гуляе, а дзіця горш сіраты.

П. Дубовіч

## Умелец з Семяноўкі

Ян Ігнацюк з Семяноўкі Нараўкаўскай гміны яшчэ ў гайнаўскай прафесіянальнай школе зацікавіўся інтарсіяй. За дзесяць гадоў стварыў ён пару соцень карцін гэтай прызабытай тэхнікай. — Хапіла б іх, каб завесіць усе сцены маёй хаты, — кажа Я. Ігнацюк. Сапраўды, іх тут нямала. А ўжо колькі купілі ў свае кватэры прыезджыя з розных вёсак і гарадоў, аднавяскоўцы ў падарунку для сваіх замежных знаёмых, колькі ўзялі сабе на памяць блізкія і далёкія сваякі!

Карціны Я. Ігнацюка гэта перш за ўсё копіі карцін Рубенса, Рафаэля, Леанарда да Вінчы. Стварае ён таксама карціны паводле каляровых рысункаў да розных казак, прыкладвае інтарсіяй вокладкі дзённікаў і хронік або сценкі драўляных шкатулак і скрыначак.

Цяпер Я. Ігнацюк працуе над карцінай вядомага польскага мастака Я. Матэйкі „Бой пад Грунвальдам".

Семяноўскі ўмелец тонка адчувае паэзію інтарсіі, умела і з добрым густам падбірае розныя колеры і адценні драўніны.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



# ТРЫБУНА чытачоў

## У гмінным цэнтры здароўя ў Гарадку

Кіраўніком гарадоцкага гміннага цэнтра здароўя з'яўляецца Рышард Мондзель, а лекарамі тут працуюць: Гражына Выграляк, Барбара Сміховіч — зубны лекар, Юрка Геніуш — педыятр. Анатоль Маркевіч працуе фельчарам пры пункце здароўя на фабрыцы „Каро", а Яўген Мартонюк інструктарам гігіены.

Цэнтр здароўя штодзень наведвае больш сотні пацыентаў. Жыхарам Гарадка і навакольных вёсак не трэба цяпер вазіць у Беласток кроў і мачу на аналіз. Усё гэта на месцы выконвае тэхнік Мар'я Мартонюк. Ёсць і свой рэнтген. У вольныя суботы прымае дзяжурны лекар.

На сцяне ў пачакальні вісіць графік, калі якая бальніца ў Беластоку мае вострае дзяжурства. Па тэлефону можна выклікаць хуткую дапамогу.

У цэнтры — поўная абслуга медсёстраў, ёсць і акушэрка. А ў мясцовай аптэцы адразу купіш патрэбныя лекі.

**Юрка Паплаўскі**

## Брудныя будкі

У мінулым годзе тэлекамунікацыйнае ўпраўленне ў Бельску Падляшскім, якое сваёй дзейнасцю ахоплівае і горад Гайнаўку, паставіла ў розных месцах горада 10 тэлефонных будак. Спачатку яны добра служылі жыхарам горада. Ды ў апошні час людзі здалёк абмінаюць гэтыя будкі. Якая прычына?

Хутка ўжо будзе год, як гэтых будак ніхто не прыбраў: падлогі засмечаны, шыбы замазаны. Ніхто пра іх не клапоціцца, і будкі гэтыя вельмі дрэнна сведчаць аб нашым чыстым горадзе.

**Раса**

## Былі на экскурсіі

Моладзь усіх трох другіх класаў групы сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім у месяцы чэрвені пабывала на экскурсіі. Яны пазнаёміліся з Кракавам і яго ваколіцамі, Закапаным, гарамі, плылі па Дунайцу, наведалі музей Леніна ў Пароніне, былі ў Вялічцы, дзе бачылі капальню солі. Убачылі шмат новага, добра адпачылі. За экскурсію часткова заплацілі самі вучні, а рэшту далажылі вучнёўская спулдзельня, бацькоўскі камітэт і школьнае самаўпраўленне.

**Мікалай Няплоха**




### АГРАНОМЫ

Аграномы то паны,
Нарадзіліся яны,
Як грыбы, у добры час,
Жывуць вясёла каля нас.

Праца іх нам добра знана,
У тэрэны едуць зрана.
А вяртаюцца назад,
Як у вёсках людзі спяць.

Так штодзень і ўсё кругом,
Добра жыць з гаспадаром.
Добра-добра жыць, вясёла,
Ды праходзіць, як камфора.

Пустазелля не адрозніць,
Дзе „рапуха", дзе рапак.
Падабней няма у свеце,
Як з блізнят сястра і брат.

Сонца свеціць, прыгравае,
Аграномам прыпякае.
Добра б сесці ў халадочку,
Выпіць чарку на пянёчку.

Як прыселі — так выпілі,
Свежай рыбкай закусілі,
За здароўе і ўраджай,
П'юць усё, такі звычай.

Аграномы шчасце маюць,
Лёгка грошы зарабляюць.

**Я. М.**

## Людзі ваеннай эпохі



Міхал Дзмітрук пачаў свой баявы шлях ад Сувалкаў ў 1944 годзе і прайшоў усю ўсходнюю Прусію. Першы раз быў паранены каля Штэйнвальда, а другі раз — у Кенігсбергу.

Цяпер Міхал Дзмітрук з'яўляецца солтысам у вёсцы Зубава. У яго медалі „За ўзяцце Кенігсберга", „За перамогу над Германіяй", „За адвагу" і іншыя.

*



Якуб Вязоўскі пачынаў ваяваць ад Мрангова. 2 лютага 1945 г. пад Кенігсбергам быў лёгка паранены, а 28 сакавіка ўжо ў Кенігсбергу быў ранены вельмі цяжка і таму не мог далей ваяваць. Атрымаў медалі „За перамогу над Германіяй" і „За адвагу". Цяпер з'яўляецца адным з лепшых гаспадароў у Зубаве.

*



Іван Назарук пачынаў свой баявы шлях ад абароны Ленінграда, потым ваяваў у Прыбалтыцы, паранены быў каля Рыгі. Цяпер ён карыстаецца пашанай у жыхароў Зубава, узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраным Крыжам Заслугі, адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны".

**Жэня Аўсенюк**

### ШКЛО НА ВУЛІЦЫ

За мільён злотых некалькі год таму назад была пабудавана ў Гайнаўцы вуліца Пралетарская. Гэта вельмі рухлівая вуліца. Ёю ездзіць хуткая дапамога, бо ў канцы знаходзіцца будынак гэтай установы. Але прадпрыемства камунальнай гаспадаркі мала дбае пра гэтую вуліцу. Найгорш і найбольш небяспечна каля бару „Экспрэс". Тут столькі шкла, што цяжка праехаць. Мясцовыя шафёры аб'язджаюць гэтае месца вуліцай Ліпоўай, каб не „злавіць гуму". А хто не ведае, упадае ў пастку пад звонкі смех наведвальнікаў бару, якія і даводзяць тут вуліцу да такога стану. Пара даўно даўно дбаць ёй да належнага парадку!

**Раса**

## Солтыс — ініцыятар

Жыхары вёскі Чаромха прынялі ўдзел у грамадскім чыне на карысць сваёй вёскі. Яны рамантавалі дарогу, якая вядзе з вёскі да супрацьпажарнага басейна і на сенажаці. Каля трыццаці асоб і восем фурманак працавала, пакуль дарогу на адрэзку 400 м не высыпалі пяском. Ініцыятарам чыну быў солтыс Пятро Дудэль. Дзякуючы яго стараннню быў таксама паглыблены супрацьпажарны басейн.

Пятро Дудэль працуе солтысам першую кадэнцыю, аднак добрасумленнасць і дбайнасць пра справы вёскі ўжо дапамаглі яму заваяваць пашану і давер у сваім асяроддзі і ў гміне. Як пайнфармаваў мяне начальнік Чаромхаўскай гміны, сярод 14 солтысаў Пятро Дудэль займае трэцяе месца. Гэта добры гаспадар і сапраўдны грамадскі дзеяч. Як член гміннага камітэта ПАРП ён актыўна ўдзельнічае ў працы партарганізацыі.

**Мацейка**

## Рэнта сялянам

У Чаромхаўскай гміне ёсць многа людзей, якія па старасці не могуць працаваць на гаспадарцы. Таму вырашаюць яны перадаць сваю гаспадарку дзяржаве, за гэта атрымліваюць сельскагаспадарчую рэнту.

У гэтым годзе Чаромхаўская гміна прыйме 49 гаспадарак у замен за рэнту, 4 задоўжаныя гаспадаркі, 21 пакінутую і 2 гаспадаркі за грашовую аплату. Усяго будзе ў 1975 годзе прынята ў дзяржаўны фонд зямлі 76 гаспадарак, г. зн. 1.165 гектараў. Лепшыя землі сяляне возьмуць у арэнду, непрыдатныя будуць перададзены надлясніцтву для лесапасадак. Пераняты ПФЗ зямлі з Зубачоў, Баброўкі і Яцэвіч пяройме сельскагаспадарчы кааператыў у Зубачах. Дагэтуль у Чаромхаўскай гміне з палёў дзяржаўнага фонду зямлі карыстаецца 147 гаспадароў.

**Мацейка**

## Вёска вёсцы няроўная

Хачу прадставіць дзве вёскі ў Шудзялаўскай гміне, якія маюць роўныя правы да жыцця і культуры, але не роўна іх выкарыстоўваюць. Гэта Востраў Паўночны і Навінка.

Яшчэ не так даўно ў Востраве Паўночным нічога не дзеялася. Але калі арганізавалася вялікая партыйная арганізацыя, яна падумала аб лепшым і больш культурным жыцці сваёй вёскі. Спачатку яны сабралі грошы і купілі старую мураваную хату. Грамадскім чынам зрабілі капітальны рамонт: змянілі крокві, уложылі столь і падлогу. Закончыць памаглі ўлады з Саколкі. Яны ж купілі столікі з крэсламі, тэлевізар, адаптар і многа настольных гульняў. Такім чынам у Востраве Паўночным быў створан клуб „Руху".

Потым супольна з ГС-ам у Крынках была пабудавана ў вёсцы крама, у якой ёсць нават пункт скупкі яек. У далейшым пабудавалі злеўню малака, арганізавалі сельскагаспадарчы гурток, на базе якога ўзнікла гмінная спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў. У гэтых установах атрымалі працу 20 чалавек з вёскі.

А вось вёска Навінка вялікая і шмат у ёй моладзі. Ды няма ў ёй ані клуба, ані крамы, ані злеўні, ані сельскагаспадарчага гуртка і ніякай арганізацыі. Калі нехта захоча купіць нешта ці прадаць яйкі, вымушаны ісці ў Шудзялава ці Казловы Луг.

І так жыццё жыццю ў вёсках не роўнае, бо так людзі дбаюць.

**Т. К.**

## Бельскі „акварыум"

У Бельску Падляшскім на вуліцы Крынічнай знаходзіцца піўная. Кожны дзень у ёй натоўп. Накурана, хоць ты сякеру вешай. Прыходзяць сюды і старыя і нават... вучні! Зімой — яшчэ-яшчэ, а летам сядаюць на траўку і „даюць добры прыклад". Ды і на вуліцы тут ніхто проста не ідзе — нешта цягне яго на бакі. Калі ў піўной няма піва, прыязджае аб'язны бар. Вечарам страшна хадзіць па гэтай вуліцы.

**Жэня Аўсенюк**

## Супольнымі сіламі

У 23-ым нумары „Ніва" пісала, што ў Гайнаўцы ў пасёлку № 4 будуецца спартыўная пляцоўка. Ініцыятарам пабудовы гэтага аб'екта быў пасялковы камітэт, які бачыў неабходнасць памагчы моладзі. Пабудову спортпляцоўкі арганізаваў ён грамадскім чынам. Працавала тут моладзь пачатковай школы нумар 2 на чале з намеснікам дырэктара Новікавай, моладзь прафесіянальных школ з дырэктарам інж. Яроцкім. Дырэктар Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці інж. Зін даў на два дні бульдозер. Ад пасялковага камітэта актыўна ўключыліся ў працу яго члены Дзедзюль і Шыманюк.

Так супольнымі сіламі былі створаны ўмовы здаровай гульні для моладзі пасёлка і горада.

Старшыня пасёлка **Э. Вайскові**ч



*Моладзь школы № 2 працуе грамадскім чынам пры спортпляцоўцы.*

## Што на гэта ваяводскія ўлады ПКС

ПКС — гэта вялікае дабрадзейства для жыхароў вёсак. З году ў год адкрываюцца новыя аўтобусныя лініі і прыпынкі. Аўтобусы заглядаюць у найдалейшыя куткі ваяводства, а прыпынкі будуюцца там, дзе людзям найбліжэй. Не ведаю толькі, чаму часам бывае наадварот. Напрыклад, у Галадах Бельскай гміны. Каля 20 год прыпынак быў больш-менш пасярэдзіне вёскі. Людзі з Галадоў і Агароднікаў, якія ездзілі ПКС-ам, былі задаволены гэтым.

Хтосьці аднак вырашыў перанесці прыпынак на канец вёскі, пад лес, як найдалей ад людзей. І цяпер жыхарам Агароднік 3 км да вёскі Галады і больш 1 км праз усю вёску трэба ісці да прыпынка. Многія ездзяць на працу ў Бельск, а моладзь у школы. Відаць, улады ПКС занадта паклапаціліся аб здароўі жыхароў гэтых вёсак і таму перанеслі прыпынак пад лес — там здаравейшае паветра. А ці падумалі яны, што людзям выгадней і бліжэй, асабліва зімой і ў дажджы? Што на гэта ўлады ПКС?

**Янтар**

## Адкрыццё клуба ў Міклашах

У Міклашах адкрылі клуб кніжкі і прэсы. Усе — моладзь і старэйшыя цешацца. У клубе можна паслухаць радыё, паглядзець перадачу па тэлевізіі ці пагуляць у цікавыя гульні. На пахвалу ў рэалізацыі гэтай ініцыятывы заслужылі як солтыс, гаспадыня клуба, так і начальнік і сакратар гміны ў Орлі, якія прыхільна аднесліся да міклашоўскага клуба.

**Ліс**

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

